


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

10 кастрычніка 2003 года

№ 41 (442)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

ПАНОС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёну**

## Выступаюць нашы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёння ў Старых Дарогах адкрываецца 2 нацыянальны фестываль народнага мастацтва "Беларусь мая – песня".

На свяце выступяць і маладзечанцы. На сцэну выйдуць мужчынская вакальная група з Беразінскага, а таксама выканаўца пластычных эцюдаў **Алеся Саўчыц** з Сасновага Бору.

Ірына РАБУШКА.

## Збываў наркотыкі

**ВІЛЕЙКА.** Супрацоўнікі міліцыі затрымалі віляйчаніна, які збываў наркотыкі. Малады гараджанін прапанаваў купіць знаёмаму марыхуану ў запалкавым пачку за 25 тысяч рублёў. На кватэры гандляра знайшлі яшчэ некалькі грамаў гэтага ж наркотыку.

Ірына РАБУШКА.

## Шалёны янот

**СМАРГОНЬ.** На мінулым тыдні ў цэнтры горада прагульваўся самы сапраўдны янот. Яго "праменад" закончыўся ў міжрайветлабараторыі, куды яго даставілі работнікі аддзела па надзвычайных сітуацыях. Ветслужба ўстанавіла факт шаленства.

Сёлета на Смаргоншчыне зарэгістравана 18 выпадкаў шаленства. Летась іх было толькі 2.

Галіна АНТОНАВА.

## Без святла

**АСТРАВЕЦ.** Два дні ў раённым вузле паштовай сувязі не было электрычнасці – у памяшканні вядуцца рамонтныя работы, але жыццё не спынілася. Работнікі ўстановы ўспомнілі старыя часы, калі даводзілася працаваць без кам'ютэраў і касавых апаратаў, і задаволілі патрэбы ўсіх сваіх кліентаў.

Ірына РАБУШКА.

## Паклапаціліся

**МЯДЗЕЛ.** У Свірскім домеінтэрнаце для псіханеўралагічных хворых адкрылася трохпавярховая прыбудова да галоўнага корпуса. Зроблена яна па еўрастандарту. У пакоях будуць жыць па 3-4 чалавекі.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Здымаецца фільм

**ВАЛОЖЫН.** Па заказу кіраўніцтва раёна прафесійныя сталічныя дакументалісты здымаюць фільм пра Валожын і Валожынскі раён. Першая яго частка ўжо гатова, цяпер ідзе праца над іншымі, прысвечанымі гісторыі горада і раёна і іх сённяшняму дню.

Аддзел інфармацыі "РГ".



# Клопаты вялікай сям'і

**МАЛАДЗЕЧНА. У Галіны Шарамет і яе мужа Уладзіміра дзесяць дзяцей. Старэйшы Раман служыць у войску, самаму малодшаму, Дзіму, — 5 месяцаў.**

Уладзімір Шарамет – маладзечанец. Галіна з горада Роўна. А пазнаёміліся яны ў Клайпедзе на вяселлі. У 1983 годзе ажаніліся. Малады муж павёз жонку ў сваё Маладзечна, дзе адразу пачалі будаваць свой дом.

Ён пакуль што недабудаваны: трэба многа грошай і часу. Уладзімір працуе па дамове ў перасоўнай механізаванай калоне. Месца работы не пастаяннае, пачуцця стабільнасці, упэўненасці ў заўтрашнім дні не дае.

Галіна выхоўвае дзяцей: Вольгу, Віцю, Наташу, Марыну, Дзіну, Сашу, Андрэя, Анюту і Дзіму. Сын Раман у Слуцку служыць у войску. Нібыта дарослы, але дапамога бацькоў неабходная не толькі маленькім.

Сёння часта можна пачуць: цяпер цяжка гадаваць дзіця, забяспечыць яго ўсім неабходным. Як людзі выхоўваюць, ставяць на ногі дзесяцярых? Галіна адказвае: "Мне ж іх не адразу пасля вяселля дзесяцярых далі.

У сям'і Шарамет ёсць карова Чарнушка і курачка Рабушка. Мець курачку марыў пяцігадовы Андрэй. Доглядае яе сам. Раней іх было дзве, але адну нядаўна разарвалі сабакі. Яшчэ Андрэй вельмі хоча ў школу, збірае грошы на партфель. Ужо ўмее рашаць задачы для вучняў падрыхтоўчага класа, прачытаў увесь буквар. Гэтым летам запісаўся ў бібліятэку, цяпер ходзіць са старэйшымі Марынай і Наташай, выбірае сабе кнігі сам.

Марына займалася ў гуртку "Кветкаводства", заняла ў конкурсе на афармленне букета першае месца сярод маладзечанскіх школьнікаў. Дзіна наведвае музычную школу. Наташа вучыцца ў спартыўным класе СШ №9, на гарадскім кросе фінішавала чацвёртай.

Тэлевізара ў доме няма, бо няма часу яго глядзець. Замест гэтага мама вучыць дзяцей лічыць і чытаць. Усе малыя Шараметы, калі ішлі ў школу, умелі чытаць. "Калі б я глядзела тэлевізар, – гаворыць Галіна, – хіба ж навучыла б я гэтаму дзяцей?".

А так дзеці ўмеюць усё. Сёлета, калі мама была з маленькім Дзімам дома, дзеці з бацькам самі садзілі на лецішчы агародніну, вырошчвалі яе і збіралі ўраджай. Дапамагаюць бацьку і нарыхтоўваць сена для каровы.

Сям'я вялікая, сабрацца разам цяжка: школьнікі займаюцца ў дзве змены, Віця вучыцца ў Маладзечанскім ПТВ-135, Вольга – у Ільянскім сельгастэхнікуме. Але выхадныя і летнія канікулы дзеці абавязкова праводзяць у бацькоўскім доме, які плануюць дабудаваць. У вялікай сям'і – вялікія і планы.

Святлана ЦІШКО.



Галіна Шарамет - маці вялікага сямейства. З мужам Уладзімірам яны гадуюць 10 дзяцей. На руках у мамы – самы малодшы, Дзіма, побач – Анюта і Андрэйка.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Новыя тэлеканалы




Абноўлены пакет праграм тэлебачання чытайце ў "Тэлетыдні" сённяшняга нумара. Прыемнага адпачынку!

"Тэлетыдзень"

## Сны Уладзіміра Арлова



Прафесійны пісьменнік, аўтар шматлікіх кніг дае інтэр'ю карэспандэнту "РГ".

2-я старонка

## Знаёмцеся – кіяскёр



Сёння мы расказваем пра кіяскёраў шапіка №10 Маладзечна Алену Цар і Аксану Шваб.

4-я старонка

■ ПАСЛУГІ

# Гонкі на рынку сувязі

## Кампанія «Мабільная лічбавая сувязь» (гандлёвая марка Velcom) абяцае значна знізіць свае тарыфы

**У хуткім часе СП ТАА «Мабільная лічбавая сувязь» (МЛС), якое аказвае паслугі сотавай сувязі ў стандарце GSM пад гандлёвай маркай Velcom, абяцае значна знізіць тарыфы для сваіх абанентаў.**

Калі менавіта гэта адбудзецца і наколькі будуць зніжаны тарыфы, у кампаніі пакуль не паведамляюць. У інтэрв'ю «Комсомольской правде» в Белоруссии» генеральны дырэктар МЛС Юрый Акімаў сказаў толькі, што «размова ідзе пра рэвалюцыйную прапанову для ўсіх абанентаў і для тых, хто толькі збіраецца імі стаць. Будуць спецыяльныя прапановы для розных катэгорый карыстальнікаў, адмысловыя ўмовы будуць прапанаваныя як заўсёды для карпаратыўных кліентаў. Гэта адбудзецца ў самай найбліжэйшай будучыні».

Як паведамляе БелаПАН, у кастрычніку сотавай сувяззю Velcom забяспечаны горад Верхнядзвінск Віцебскай вобласці. Да канца месяца ёмістасць сеткі будзе павялічана дзякуючы запуску яшчэ адной дадатковай базавай станцыі.

У верасні сувязь Velcom запрацавала ў Пінску, Ганцавічах, Мастах, Глыбокім, Старых Дарогах, Дзятлаве, Доўску, Клецку, Карэлічах, Высокім, Верхнядзвінску і Чачэрску; павялічана ёмістасць сеткі ў Бярозе, Салігорску, Дзяржынску. Паскоранымі тэмпамі вядзецца забеспячэнне пакрыцця аўтамагістраляў Мінск — Гомель, Мінск — Гродна, Віцебск — Гомель, забяспечана сувязь уздоўж дарогі Мінск — Ашмяны — мяжа з Літвой.

У адпаведнасці з зацверджаным планам развіцця сеткі ў 2004 годзе, у гэты перыяд Velcom павінна забяспечыць сувяззю ўсе райцэнтры краіны і іншыя невялікія гарады, а таксама забяспечыць пакрыццё аўтамагістраляў Мінск — Віцебск, Мінск — Магілёў, Мінск — Мікашэвічы, мяжа з Латвіяй — Верхнядзвінск — Віцебск — мяжа з Расіяй, Слонім — Ваўкавыск — мяжа з Польшчай. Пры гэтым ёмістасць сеткі ва ўжо забяспечаных сувяззю Velcom гарадах і прадмесцях будзе бесперапынна нарошчвацца.

### Сувязь GSM у рэгіёне

Забеспячэнне сувяззю living рознымі аператарамі GSM у нашым рэгіёне паказаная ў табліцы.

| Velcom | МТС |
|---|---|
| Маладзечна | Маладзечна |
| Вілейка | Вілейка |
| Смаргонь | Мядзел |
| Валожын | Купа (к.п.Нарач) |
| Ашмяны | Радашковічы |
| Мядзел | |
| Купа (к.п.Нарач) | |
| Радашковічы | |
| Камены Лог | |

Velcom сёння выйграе ў свайго адзінага канкурэнта кампаніі МТС у зоне пакрыцця і колькасці абанентаў, якіх налічваецца больш за 570 тысяч (у МТС больш за 300 тысяч). МТС выйграе ў тарыфных планах, цэны якіх ніжэйшыя за цэны ў Velcom. Але перавагі ў зоне пакрыцця і абаненцкай базе могуць быць часовымі. Менавіта таму Velcom вырашыў на сур'ёзнае, а па словах яго генеральнага дырэктара Юрыя Акімава, нават грандыёзнае, зніжэнне тарыфаў.



Можна прагназаваць, што тарыфы Velcom пасля нядаўняй смелай заявы генеральнага дырэктара кампаніі МЛС Юрыя Акімава знізяцца да ўзроўню тарыфаў канкурэнта, захаваўшы пры тым 12–секундную тарыфікацыю. Пасля гэтага не збудзецца прагноз "масавага адтоку" кліентаў Velcom у сетку МТС з–за тарыфаў. МТС пакуль застаецца найбольш папулярнай сеткай сярод студэнтаў, Velcom – сярод людзей дзелавых, для якіх важна як мага поўнае пакрыццё сувяззю тэрыторыі краіны і тое, што ў яго тэлефоннай кніжцы большасць абанентаў знаходзіцца ў той самай сетцы. Ці збудуцца прагнозы – пакажа час. Фота ByMedia.net

### Папулярныя тарыфныя планы, руб.

**(для Velcom з 9.00, для МТС – кругласутачна)**

| | Velcom<br>Стандартны<br>Тарыфікацыя 12 сек. | МТС<br>Рацыянальны<br>Тарыфікацыя 1 мін. |
|---|---|---|
| Абанплата | 15180 | 9000 |
| 1 мінута размовы | | |
| Унутры сеткі | 154 | 30 |
| | 110 (ад 2–й мінуты) | |
| На стацыянарную сетку | 290 | 216 |
| На сетку іншага аператара GSM | 340 | 260 |
| SMS (за адно) | 110 | 105 |

### Наколькі могуць быць зніжаныя тарыфы?

Адказ на гэта пытанне, калі верыць Юрыю Акімаву, мы атрымаем неўзабаве. Канкрэтныя планы тэрмінаў і памераў зніжэння трымаюцца ў сакрэце. Але можна меркаваць, што зніжэнне магчымае да прыкладнага ўзроўню тарыфаў на Velcom. Ніжэй – няма пільнай неабходнасці. Пры перавагах у пакрыцці і абаненцкай базе і роўных тарыфах Velcom стане безумоўным лідэрам на рынку мабільнай сувязі.

Нельга забываць толькі аднаго. Гульня на рынку мабільнай сувязі ў Беларусі аналагічная гульні двух моцных партнёраў за шахматнай дошкай. Кожны дастойны ход або камбінацыя хадоў аднаго цягне за сабой не менш дастойны ход або камбінацыю хадоў другога. Але гульня на нашым рынку сувязі не можа скончыцца матам. За расстаноўкай сіл пільна сочыць дзяржава, у чыіх руках важкія пакеты акцый і Velcom, і МТС.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Тарыфы - 2004 = тарыфам - 2003?

## Улады не плануюць павышаць тарыфы на электрычнасць і цяпло ў 2004-м годзе

**МІНСК. Міністэрства энергетыкі Беларусі не плануе павышаць у 2004 годзе тарыфы для насельніцтва на электрычную і цеплавую энергію.**

Аб гэтым заявіў у сваім выступленні на VIII Беларускім энергетычным і экалагічным кангрэсе, што прайшоў 7 кастрычніка ў Мінску, начальнік упраўлення стратэгічнага развіцця Мінэнерга Уладзімір Баброў.

Ён зазначыў, што, нягледзячы на дачаснасць размовы аб выніковых лічбах, спецыялісты Мінэнерга спрабавалі спрагназаваць цэнавую палітыку ў энергетычнай галіне. «Калі спрагназаваць варыянт павышэння цэн на прыродны газ, што пастаўляецца ААТ «Газпрам», да ўзроўню камерцыйных, гэта значыць да ўзроўню 44—45 долараў ЗША, дык гэта прывядзе да росту кошту куплі газу больш чым на 25 працэнтаў. І гэта пры ўмове, што цэны на газ незалежных пастаўшчыкоў захаваюцца на ўзроўні жніўня—снежня 2003 года», — сказаў У.Баброў.

Паводле яго слоў, развіццё падзей у 2004 годзе пры такіх умовах прывядзе да падаражэння газу для прамысловых спажыўцоў на 22 працэнты да ўзроўню 68,85 долара ЗША за тысячу кубаметраў газу. Пры павелічэнні цаны на газ таксама вырастуць тарыфы на электрычнасць і цеплавую энергію — на 16,6 і на 24,5 працэнта адпаведна, зазначыў У.Баброў. Ён падкрэсліў, што «пытанне цаны на газ — пытанне маючых адбыцца перамоў як на ўзроўні суб'ектаў гаспадарання ААТ «Белтрансгаз» і ААТ «Газпрам», так і на ўрадавым узроўні».

**Генадзь ШАРЫПКІН, БелаПАН.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 2.10 руб. | 9.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2110,00 | 2115,00 |
| Еўра | 2463,64 | 2499,61 |
| Злоты | 538,94 | 548,24 |
| Літ | 713,61 | 723,82 |
| Расійскі рубель | 69,02 | 69,62 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2105/2120 | 2100/2130 |

Маладзечна

### Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 1.10 | 8.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12630 | 11300 |
| Сасіскі, 1 кг | 4130 | 4490 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2750 |
| Рыс, 0,9 кг | 780 | 800 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1350 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1150 | 1250 |
| Алей, 1 л | 1900 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 480 | 500 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 300 |
| Морква, 1 кг | 550 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 1650 | 2250 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 850 | 750 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 400 |
| Яблыкі, 1 кг | 800 | 950 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 750 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2500 | 2300 |
| Масла, 1 кг | 4900 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | 10000 | 11000 |

■ ЗДАРЭННЕ

### Ахвяра палявання

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 4 кастрычніка, падчас палявання паранілі дырэктара аднаго з заводаў В. А.**

Разам са сваімі знаёмымі В.А. паляваў на дзіка. Як паведамілі ў Вілейскім аддзеле ўнутраных спраў, ён парушыў правілы палявання. Паляўнічыя выстройваюцца ў пэўным парадку, кожны мае свой нумар і адпаведна зону абстрэлу. Пацярпелы пагрэбаваў бяспекай і трапіў у зону абстрэлу.

У сераду ахвяру палявання перавезлі з Вілейкі ў рэанімацыйнае аддзяленне Мінскай абласной бальніцы.

Вілейская міжрайпракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце няшчаснага выпадку.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

**ГУТАРКА З ПСІХОЛАГАМ**

# Шлях да сябе

**МАЛАДЗЕЧНА. Шлях да сябе... Яго хоча знайсці кожны з нас. Чула, што чалавек не можа палюбіць і зразумець іншага, калі не любіць і не разумее сябе. Згодныя?**

Сваё меркаванне ёсць і ў загадчыцы аддзялення рэабілітацыі дзяцей і падлеткаў цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей, кіраўніка псіхалагічнага клуба "Шлях да сябе" **Наталлі Мазуры.** Некалькі крокаў да сябе яна ўжо зрабіла. Таму з'явілася ідэя дапамагчы іншым. Наталля распрацавала сваю трэнінгавую праграму.



**Загадчыца аддзялення рэабілітацыі дзяцей і падлеткаў цэнтра сям'і і дзяцей, кіраўнік псіхалагічнага клуба "Шлях да сябе" Наталля Мазура.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Шлях да поспеху

Шлях да поспеху знайсці можна. Для гэтага толькі трэба пазбавіцца адмоўных эмоцый і паспрабаваць зацікавіцца сваёй асобай.

Сядзьце перад люстэркам, развядзіце рукі ў бакі, быццам шалі. У думках на адну пакладзіце падзеі, пачынаючы з дзяцінства, якімі вы задаволеныя. На другую -- тыя, што не зусім задавальняюць. Лепшага ў жыцці будзе значна больш, чым думаеце.

## Бацькі і дзеці

Гэты альянс — неад'емная частка нашага жыцця. На дзіцяча-бацькоўскія трэнінгавыя праграмы збіраюцца мамы і таты, у якіх ёсць цяжкасці ў выхаванні дзяцей. Ці проста з'явілася жаданне лепш зразумець адно аднаго.

Бацькі выхаванню паддаюцца цяжэй, чым дзеці. У любой дарослай асобы ёсць як бы тры яе састаўныя часткі: дзіця, бацька, дарослы. І задача спецыяліста ўраўнаважыць іх.

Часцей шукаюць дапамогу бацькі, якія выхоўваюць 8--11-гадовых школьнікаў.

Вельмі часта бываюць праблемы ў саміх бацькоў, якія яны хаваюць за дзяцей. У першую чаргу гэта мамы і таты з высокім узроўнем трывожнасці. Прычым яна не мае канкрэтнага абазначэння, а проста з'яўляецца станам чалавека. Гэта выклікае праблемы паміж бацькамі і дзецьмі.

Што можа наблізіць дарослага да дзіцяці? Пагуляйце разам. Памалюйце адно па аднным ці памачыце палец у фарбы і зрабіце на паперы мора, неба. Толькі не павучайце дзіця. Пераўварыцеся ў хлопчыка або дзяўчынку, каб паміж вамі не было саперніцтва. З больш старэйшымі дзецьмі "асвойвайце" масаж ці вучыцеся гаварыць кампліменты.

## Арт-студыя

Гэта новая распрацоўка псіхолага Наталлі Мазуры. А пачалося ўсё яшчэ з дзяцінства, калі яна пачала танцаваць. Менавіта танец, лепка, малюнак дапамагаюць адкрыць унутраныя магчымасці чалавека. І разам з тым у зайальнай форме вырашыць канфлікт з самім сабой і навакольнымі.

--Арт-студыя — маё асабістае захапленне, -- гаворыць Наталля. -- Я бачу ў яе стварэнні шмат перспектыў. Гэта тое, што радуе чалавека. Можна разам працаваць з дзецьмі і дарослымі. У праграме няма абмежаванняў па ўзросце. Яна аблегчыць жыццё людзям з псіхічнымі асаблівасцямі.

-- Ваш клуб,студыя — нібыта асобная краіна.

-- Так. У нас нават герб свой ёсць. Яго прыдумаў адзін з клубаўцаў. Галінка бярозы і дуба азначаюць жаночы і мужчынскі пачатак, сонца -- сімвал святла, птушка -- душы, званочак -- яе гукі, каласы -- сталасць душы, сэрца -- каханне.

-- Ці ведаеш ты, Наталля, шлях да сябе? Які ён у цябе?

-- Я шмат сустракаюся з людзьмі. Гэта мая крыніца жыцця. А таксама танцую, малюю і чытаю кнігі.

... У кожнага свой шлях да сябе. Маркую, што сёння, сяброўка, мы таксама знайшлі яго.

**Ірына РАБУШКА.**

■ **СЯМ'Я**

## Няроўны шлюб таксама бывае

**СМАРГОНЬ. Па дадзеных спецыялістаў ЗАГСа, у раёне ўзрасла колькасць няроўных шлюбаў. Розніца ва ўзросце паміж жанчынай і мужчынам у такіх шлюбах вагаецца ў межах 20-30 гадоў.**

Старэйшымі бываюць як жаніхі, так і нявесты. Апошні няроўны шлюб зарэгістравалі сёлета 21-гадовая дзяўчына і 42-гадовы мужчына. А самай маладой нявесце ў гэтым годзе было 15 гадоў. Гавораць, справа не ў цяжарнасці, а ў вялікім каханні.

Выходзяць замуж смаргонскія жанчыны і за мяжу: у Чэхію, Славакію, Іспанію, Англію, Польшчу. А таксама едуць на заробкі ў гэтыя краіны. Тады бяруць спецыяльныя даведкі, якія дазваляюць ажаніцца з іншаземцамі, нават калі іх яшчэ і на прыкмеце няма. Кажуць, на ўсялякі выпадак.

Узрасла колькасць скасаваных шлюбаў, дзе мужчыну і жанчыну «прымушаюць» разводзіцца законы. Распадаюцца сем'і ў час куплі-продажу кватэр, прапіскі. Прыкладна 80% такіх сем'яў сходзяцца зноў.

**Ірына РАБУШКА.**

## Мая палавіна

**Часта муж і жонка кажуць адно аб адным: "Мая палавіна". У гэтых словах глыбокі сэнс. Палова нашых поспехаў закладзена ў сям'і, разам лягчэй пераносіць цяжкасці, і гора ўдваіх – гэта толькі палова гора.**

Кажуць, што выраз "мая палавіна" зарадзіўся ў далёкім мінулым, калі яшчэ на зямлі жылі агромністыя жывёліны "андрагіны", якія спалучалі ў сабе мужчынскі і жаночы пачатак. Яны валодалі вялікай сілай, упэўненасцю і дазвалялі сабе сапернічаць нават з багамі. Зеўс угнявіўся і вырашыў пакараць іх. Ён раздзяліў іх папалам, так што атрымаліся дзве істоты – мужчына і жанчына, і раскідаў па зямлі. З таго часу кожны шукае сваю палавіну. Не знайшоўшы яе, чалавек робіцца няшчаслівым. А калі дзве палавінкі збіраюцца разам, то зноў валодаюць сілай андрагіна. Жыццё ў такой сям'і поўніцца не толькі каханнем. Але і ўзаемаразуменнем, пяшчотай, дабрынёй.

У старажытнаславянскай мове "су" азначала "злучаныя разам", "пруга" – вупраж. Выходзіць, "супругі" гэта людзі, што ідуць у адной вупражы. Давайце не будзем забывацца пра гэта.

**Марына АЗЕРСКАЯ.**

■ **ПАРАДЫ АД РЭГІЯНА**

## Ну, выбі дыван!

**Колькі сямейных драм адбываецца па гэтай прычыне. А можа, да гэтай праблемы можна знайсці іншы падыход.**

1. Абараняйце дываны ад сонечнага святла занавескамі, каб захаваць насычанасць афарбоўкі.

2. Не радзей аднаго разу ў год чысціце дыван уручную пры дапамозе шампуню ці спецыяльным пыласосам.



3. Вылітую на пакрыццё вадкасць выдаляйце адразу ж.

4. Старайцеся, каб не траплялі на пакрыццё рэшткі ежы.

## Некалькі іншых парад для гаспадыні

Калі трэба хутка астудзіць гарачы кампот, пастаўце каструлю з кампотам у вялікую пасудзіну, напоўненую халоднай вадой, у якую дабаўлена крышку буйной солі.

**Сырую капусту смажыць не варта, яна становіцца сухой і нясмачнай. Таму спачатку яе трэба адварыць, а пасля смажыць.**

У тушаную свежую капусту дадайце крышку воцату ці лімоннай кіслаты, каб капуста не рабілася мяккай.

**З найлепшымі пажаданнямі — бобрык Рэгіян.**

# Я раскажу пра горкае каханне

На вуліцы было холадна, мокра і цёмна. Таму, напэўна, і здаўся раем у гэту непагадзь вагон цягніка, які павінен быў давесці мяне да роднай вёскі. Прымасціўшыся ля акна, пазірала на ярка асветлены вакзал, перон, па якому тудысюды снавалі людзі, і з нецярпеннем чакала, калі ж мы нарэшце паедзем. "Да адпраўлення цягніка засталося пяць хвілін", — прахрыпеў у рэпрадуктары голас машыніста. Літаральна ў гэты час з боку вакзала паказалася маладая жанчына з дзіцячай каляскай і вялікай сумкай у руках. Бясспрэчна, яна спяшалася на гэты поезд.

"Дапаможам", — па-змоўніцку падміргнула свайму суседу і першай падалася да выхаду". "Давай!" — зухавата падняўся са свайго месца хлопец і рушыў услед. Лену, так назвалася жанчына, ён пасадзіў на сваё месца — свабодных у вагоне больш не аказалася, — а сам з яе вялікай сумкай і каляскай застаўся стаяць у тамбуры.

"Пашчасціла нам з вамі, – першай пачала гаворку я. Сапраўднага мужчыну сустрэлі". "Дзе яны цяпер, сапраўдныя", — з нейкай іроніяй у голасе сказала яна і адвярнулася да акна. Па той яго бок ішоў дождж, сцякаючы па мокрым шкле буйнымі кроплямі. Праз нейкі час такім жа мокрым стаў твар маладой жанчыны. Толькі не ад вады, ад слёз.

"Ведаеце, — пачала сваю споведзь Лена, — я таксама верыла ў сапраўдных мужчын. Моцных, разумных, дужых, здольных зразумець, падставіць сваё плячо. І такі знайшоўся: прадпрымальнік Юрык, у якога я працавала прадаўцом на рынку.

Пакахалі адразу. Як і ўсе мужчыны-каўказцы, ён умеў апякаць. А на 8 Сакавіка Юрык прапанаваў стаць яго жонкай. Я згадзілася".

Лена марыла пра вяселле. Не раз уяўляла, як у белай, да падлогі сукенцы ўвойдзе ў вясковы клуб, як станцуе, пад зайздроснымі позіркамі сябровак, свой першы сямейны вальс. Аднак Юра цягнуў з вяселлем. Адразу казаў, што не дазваляюць фінансы, пасля, што разумныя людзі з заявай у ЗАГС адразу не бягуць. Трэба пажыць разам, прыглядзецца. Праз тыдзень Лена перахала да яго на кватэру.

Жылі дружна надоўга. Юрык аказаўся капрызным, сварлівым чалавекам. Як ні старалася, не магла дагадзіць ні сказаць, ні прыгатаваць. Лена адчувала, што замінае яму, але сабраць чамадан і вярнуцца ў інтэрнат не хапала сіл.

Юрык сам пакінуў яе, акурат напярэдадні Навагодняга свята. Забраў свае рэчы і сказаў, што больш не вернецца. А яшчэ праз два месяцы Лена нарадзіла дзяўчынку. З бальніцы яе забралі сяброўкі. Яны і рэчы дзіцячыя купілі, каляску ў камісійным магазіне. Вечарам таго ж дня патэлефанаваў Юрык і сказаў, што ў кватэры яна можа жыць да восені.

Новаспечаны бацька так ні разу і не адведаў дачку. Лена таксама яго не шукала. Маўляў, насільна мілы не будзеш. А калі надышоў час з'язджаць з кватэры, асмелілася ды папрасіла ў цёткі, якая жыве ў адной з вёсак Маладзечанскага раёна, прытулку. Тая пляменніцы не адмовіла. Толькі накрычала, затое што доўгі час не прыязджала, не пісала, прымусіўшы старога чалавека хвалявацца.

Цётка Наташа — родная сястра Ленінай пакойнай маці. Працавітая, добрая жанчына, якая ўсё сваё жыццё гнула спіну ў калгасе. Была і звеннявой па вырошчванні льну, і брыгадзірам бульбаводчага звяна, і маці для сястрыных дзяцей, якія рана засталіся сіротамі. Лена не памятае, каб яна калі-небудзь скардзілася, стагнала, наракала на свой лёс. Наадварот, цётка была душой любой кампаніі, умела радавацца жыццю і заражала аптымізмам іншых.

Пасля размовы з ёй быццам бы лягчэй стала і самой Лене. Цяпер яна верыць у шчаслівы лёс сваёй дачушкі, за адказе ў які будуць мама і бабуля.

**Марына СЛІЖ.**

